Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 490.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Аўторак, 23 чэрвеня 1998 г. № 66 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## На Смаленскай АЭС спрацавала аварыйная сістэма

**Учора а 9 гадзіне раніцы трывожны сігнал паступіў са Смаленскай атамнай электрастанцыі. Там узніклі чарговыя тэхнічныя непаладкі.**

Як паведамілі нам у рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны, на Смаленскай АЭС быў спынены трэці энергаблок, бо спрацавала аварыйная сістэма. Але, як нас запэўнілі, узроўні радыяцыі застаюцца ў норме, выкідаў у атмасферу не зарэгістравана. Прычыны аўтаматычнага спынення блока высвятляюцца.

Мікола ВАЙТОВІЧ

## З панядзелка – новы курс долара

**З учарашняга дня долар істотна падаражэў у абменных пунктах. У некаторых банках курс продажу ўзняўся да 55.000 рублёў.**

Нацыянальны банк сваёй тэлеграмай, якая паступіла ў камерцыйныя банкі раніцай 22 чэрвеня, дазволіў устанаўліваць курс продажу наяўнай валюты на 10% вышэй за курс пакупкі. У выніку каціроўкі амерыканскага долара ў абменных пунктах узняліся да 50.000 рублёў пры пакупцы і 55.000 рублёў пры продажы.

Тым часам на «чорным» рынку долар у панядзелак таксама пайшоў у рост. Курсы пакупкі і продажу выраслі на 1.000 пунктаў і склалі, адпаведна, 58.000 і 59.000 рублёў за адзін долар.

*БелаПАН*

## Шэсце салідарнасці

**Сёння, 23 чэрвеня, калі ў нацыянальным сходзе пачнуцца слуханні па правах чалавека, дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання правядуць альтэрнатыўную акцыю — марш пратэсту.**

Парламентарыі хочуць прыцягнуць увагу грамадскасці да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і выказаць сваю салідарнасць з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, якія знаходзяцца ў турмах. Паводле звестак БелаПАН, удзельнікі маршу збяруцца 23 чэрвеня ў 10:30 каля гасцініцы «Мінск».

Б.П.

## За газ заплаціць кожны

**Беларускі ўрад рыхтуе чарговае пагадненне з канцэрнам «Газпром» аб пагашэнні запазычанасці, якая на сёння ўжо дасягнула 240 млн. долараў. Плануецца, што з ліпеня Беларусь пачне плаціць за газ па-новаму.**

Дакумент перш за ўсё прадугледжвае, што ўсе даўгі за газ бярэ на сябе ўрад Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, запазычанасць прадпрыемства «Белтрансгаз» ператвараецца ў даўгі дзяржавы.

Гэта кардынальна змяняе сітуацыю. Па-першае, знешні доўг Беларусі ўзрасце на 240 млн. долараў і перавысіць за 1,2 млрд. долараў ЗША. Да таго ж, даўгі за газ пяройдуць на дзяржаўны бюджэт, а значыць, кожны беларус будзе аплачваць чужыя даўгі сваімі падаткамі.

Схема разлікаў, на першы погляд, простая. На суму 240 млн. долараў «Газпрому» аддадуць дзяржаўныя аблігацыі, а ў заклад пад аблігацыі пойдуць беларускія прадпрыемствы, спіс якіх удакладняецца.

Алесь САДОЎСКІ

## Ураган на Палессі

**У мінулую пятніцу ў 17 гадзінаў вёска Васькаўка Мазырскага раёна апынулася ў эпіцэнтры стыхіі. Смерч, які ахапіў тэрыторыю дыяметрам 3,5 кіламетра, поўнасцю разбурыў 6 дамоў, некалькі дзесяткаў пабудоў пашкодзіў часткова.**

Рухаўся смерч ад вёскі Гостаў да Вялікіх Зімовішчаў, а гэта адлегласць каля 20 кіламетраў. Як паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны Мазырскага раёна, палегла каля тысячы гектараў лесу. Дрэвы ламаліся, быццам запалкі, на вышыні 2-3 метры ад глебы. Імі завалена каля 50 кіламетраў лініяў электраперадач, моцна пашкоджаная тэлефонная сувязь. Вецер, хуткасць якога перавысіла 25 метраў у секунду, суправаджаўся магутным лііўнем з градам. Жанчына, якую смерч заспеў на полі, распавяла, што нельга было нічога ўбачыць на адлегласці выцягнутай рукі.

Штаб грамадзянскай абароны цяпер заняты ліквідацыяй наступстваў смерчу. Як сцвярджаюць яго супрацоўнікі, улады яшчэ не навучыліся «імгненна рэагаваць» на стыхію; фінансавы сродкаў на рамонтныя работы няма, і будаўнічыя матэрыялы даводзіцца браць у доўг.

Сяргей КАВАЛЁЎ

## Смяротныя ўдары

На мінулым тыдні ад удару маланкі загінулі сем чалавек: тры — у Мінскай вобласці, у Гомельскай — 2; па адным у Віцебскай і Гродзенскай абласцях.

Б.П.

## Паслы заходніх краінаў пакінулі Мінск

Учора ў 14 гадзінаў рэйсам авіякампаніі «Люфтганза» з Мінска адляцелі паслы Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Японіі і іншых заходніх краінаў. А ў Мінск тым часам прыбываюць беларускія паслы, якіх Захад адправіў дадому, каб яны патлумачылі свайму дарагому прэзідэнту, як трэба паводзіць сябе з дыпламатамі. Валерый Цэпкала, якога адправілі з Вашынгтона, учора ўжо быў у Мінску. У Злучаных Штатах яго пакуль не чакаюць, ён будзе вымушаны заставацца ў Беларусі роўна столькі дзён, колькі будзе «кансультавацца» ў Вашынгтоне пасол ЗША Дэніэл Спекхард.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ



*Паслы пяці краінаў — Вялікабрытаніі, Германіі, Грэцыі, Італіі і Францыі — у суботу перадалі ў беларускае міністэрства замежных справаў ноту пратэсту, заявіўшы, што пакідаюць Беларусь «на няпэўны тэрмін». Адначасова яны праінфармавалі наш МЗС, што беларускім паслам, акрэдытаваным у краінах Еўрапейскага Саюза, будзе прапанавана вярнуцца ў Мінск.*

# Хроніка дэпартацыі з Драздоў

**Здавалася, што канфлікт вакол Драздоў завяршыўся мірна. У сераду, 17 чэрвеня, міністр Іван Антановіч паведаміў замежным паслам, што яны могуць заставацца ў сваіх рэзідэнцыях, але папярэдзіў — будуць «пэўныя нязручнасці». Праз дзень усіх паслоў выжылі з Драздоў. Падзеі развіваліся наступным чынам.**

**Пятніца, 19 чэрвеня.** Раніцай, як звычайна, паслы выехалі з Драздоў на працу — у свае амбасады. А вось вярнуцца на абед ім не ўдалося: цэнтральны праезд у Драздоў аказаўся перакапаны. Як потым высветлілася, заваранымі былі вароты і на дадатковых уездах. У свае рэзідэнцыі паслы дабіраліся хто як мог. Дэніэл Спекхард, амбасадар ЗША, пайшоў пешшу. Французскі пасол Бернар Фасье даехаў да рэзідэнцыі на веласіпедзе, які прадбачліва вазіў апошнія дні ў багажніку. Тыя, у каго не знайшлося пад рукой ні ровара, ні паветранага шара, развярнуліся і паехалі назад у Мінск у свае офісы. Але і шчаслівчыкаў, якія трапілі ў Драздоў, чакаў сюрпрыз: у рэзідэнцыях былі адключаныя вада, электрычнасць і тэлефонная сувязь. Гэта стала апошняй кропляй.

У пятніцу ў 14:30 у брытанскай амбасадзе пачалася надзвычайная нарада паслоў, якія сабраліся абмеркаваць сітуацыю. Усяго ўдзельнічала 14 амбасадараў. Праз паўтары гадзіны да журналістаў, якія чакалі на вуліцы, выйшаў дуайен (ганаровы старэйшына дыпламатычнага корпусу) балгарскі пасол Марка Ганчаў. Ён быў вельмі ўзбуджаны. М.Ганчаў заявіў, што палажэнне надзвычай сур'ёзнае. *«Пасля дасягнутага кампрамісу я не чакаў, што такое можа адбыцца»*, — сказаў ён. Менавіта Марка Ганчаў упершыню паведаміў журналістам, што краіны Еўрапейскага Саюза збіраюцца адклікаць сваіх паслоў для кансультацыяў.



*Балгарскі пасол Марка Ганчаў.*

Тым часам беларускія ўлады маўчалі, як вады ў рот набраўшы. Пра пазіцыю афіцыйнага Мінска можна было даведацца хіба што з расійскіх СМІ, якія неаднаразова цытавалі словы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі: *«Мы нікому не можам дазволіць усталёўваць свае парадкі, кожны дыпламат павінен падпарадкоўвацца парадкам той краіны, дзе ён знаходзіцца»*.

**Субота, 20 чэрвеня.** Афіцыйна абвешчана, што паслы краінаў Еўрасаюза ў панядзелак пакідаюць Мінск. Ад імя ЕС з заявай на гэты конт выступіла Джэсіка Пірс, пасол Вялікабрытаніі. Яна паведаміла, што паслы адклікаюцца *«для тэрміновых кансультацыяў у сталіцы сваіх краінаў па прычыне непрымальных паводзінаў беларускіх уладаў у дачыненні рэзідэнцыяў кіраўнікоў місій»*. У прыватнасці, як падкрэсліла Джэсіка Пірс, Еўрапейскі Саюз выступае катэгарычна супраць адключэння вады, электрычнасці і тэлефонаў, а таксама адмаўлення паслам ва ўездзе на тэрыторыю Драздоў. Джэсіка Пірс таксама паведаміла, што беларускім паслам, якія працуюць у сталіцах краінаў ЕС, будзе прапанавана вярнуцца ў Мінск, *«каб перадаць у недвухсэнсавых выразах аб стаўленні Еўрапейскага Саюза да апошніх дзеянняў беларускіх уладаў»*. Як адзначаецца ў прэс-рэлізе пасольства Вялікабрытаніі, *«Еўрасаюз гатовы аднавіць дыялог з урадам Рэспублікі Беларусь, але гэта стане магчымым толькі пры ўмове, што беларускія ўлады будуць з павагай ставіцца да Венскай канвенцыі і фундаментальных прынцыпаў, якімі кіруюцца дыпламатычныя адносіны і прадстаўніцтвы»*.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ



*Амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард пакідае Мінск.*



*Праз дзве хвіліны пасол ФРГ Хорст Вінкельман сядзе ў машыну і ад'едзе ў аэрапорт. Калі вернецца?*

## Дзесяць вякоў нашай дзяржавы

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выступіла з ініцыятывай — адсвяткаваць у ліпені 2000 года тысячагоддзе беларускай дзяржаўнасці.**

Рада «Бацькаўшчыны» падрыхтавала зварот *«Аб святкаванні 1000-годдзя беларускай дзяржаўнасці»* і збіраецца распаўсюдзіць яго сярод суайчыннікаў у Беларусі і за мяжой. Падрыхтоўкай да ўрачыстасцяў зоймецца грамадскі аргкамітэт. На думку кіраўніцтва «Бацькаўшчыны», святкаванне гэтай знамянальнай даты будзе садзейнічаць выхаванню ў беларускага народа патрыятычных пачуццяў і *«пачуцця гонару за Беларусь як старажытнай еўрапейскай дзяржавы»*.

*БелаПАН*

## Прынясі даведку аб хрышчэнні

**Першы набор навучэнцаў аб'явіла духоўнае праваслаўнае вучылішча пры Віцебскім епархіяльным упраўленні.**

Новая навучальная ўстанова будзе рыхтаваць царкоўнаслужыцеляў праваслаўнай царквы, у тым ліку катэхізатараў-выкладчыкаў нядзельных школаў, рэгентаў царкоўных хораў, чытальнікаў, псаломшчыкаў. Для таго, каб паступіць у вучылішча, трэба прайсці выпрабаванні на веданне ранішніх, вячэрніх і іншых малітваў, умець чытаць на царкоўнаславянскай мове і мець музычны слых. Апрача таго, абітурыенты павінны прадставіць у канцылярыю вучылішча 11 розных дакументаў і даведак, сярод якіх — рэкамендацыя прыходскага святара і даведка аб хрышчэнні.

*БелаПАН*

## Сцяг над Наваполацкам

**Раніцай 16 чэрвеня жыхары Наваполацка прачнуліся пад бел-чырвона-белым сцягам.**

Вялікае палотнішча (3 на 1,5 метра) было замацаванае на адной з найвышэйшых кропак горада — асвятляльнай мачце стадыёна «Атлант», якая ўзвышаецца насупраць будынка мясцовых уладаў. Ліквідаванне «небяспечнай крамолы» каштавала міліцыянтам вялікіх намаганняў і сур'ёзнай рызыкі.

**Гандрусь СТРЭМКА**

## Крыж у кар'еры

**Полацкая філія БНФ правяла акцыю па ўшанаванні памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.**

Непадалёку ад Бельчыцкіх могілак, на тым самым месцы, дзе каты з НКВД расстрэльвалі людзей, быў устаноўлены вялікі крыж з надпісам: *«Ахвярам рэпрэсій ад нашчадкаў, якія не страцілі памяць»*. Праўда, памяць нашчадкаў спала даволі доўга: спачатку кар'ер, у якім выконваліся расстрэлы, пуставаў, а потым пясок з яго разам з людскімі косткамі пайшоў на будоўлю Маскоўскай шашы... І толькі зараз, дзякуючы намаганням сяброў БНФ, памяць народа абудзілася і паўстала беларускім шасціканечным крыжам над месцам смерці ні ў чым не павінных людзей.

**Гандрусь СТРЭМКА**

## Трохмоўны касцёл

**У Гервятах Астравецкага раёна ў касцёле Святой Тройцы адбылося свята, у якім удзельнічалі гродзенскі біскуп Кашкевіч, віленскі арцыбіскуп Бачкус, дыпламатычныя прадстаўнікі Польшчы і Літвы.**

У касцёле гучалі літоўская, польская і беларуская мовы, паколькі сярод прыхаджанаў ёсць прадстаўнікі гэтых трох народаў. Гервяты — адно з месцаў, дзе кампактна пражываюць літоўцы. Свята па-за касцёлам якраз мела пераважна літоўскую афарбоўку. На часовай сцэне насупраць храма выступалі ансамблі з Літвы, а таксама мясцовая самадзейнасць.

Гервяцкі касцёл у 1999 годзе будзе адзначаць юбілей — 100 гадоў з пачатку пабудовы. Да ўгодкаў сёння храм рамантуюць прыхаджане на чале з ксяндзом Леанідам Нісьцюком. Дапамагаюць у рамонце раённыя ўлады і мясцовыя калгасы «Радзіма» і «Рассвет».

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Польскі консул збіраў ксяндзоў

**Генеральны консул Польшчы ў Гродне С.Шостак збіраў у сябе ксяндзоў, якія служаць у касцёлах Гродзеншчыны.**

У спатканні ўдзельнічаў таксама гродзенскі каталіцкі біскуп А.Кашкевіч. Цяпер, напэўна, трэба чакаць, што рускі пасол збярэ да сябе на нараду бацюшак.

**А.З.**

## Неплацельшчыкаў надрукавалі

**У Лідзе актыўна змагаюцца з даўжнікамі кватэрплаты.**

Бягучая запазычанасць насельніцтва ЖЭСам складае 6 мільярдаў рублёў. Амаль 300 сем'яў не плацяць за жыллё па году, маючы часам даўгі па 7-8 мільёнаў. Жыллёва-камунальная служба спагнала праз суд пакуль усяго 25 мільёнаў рублёў. Затое было выпісана 2 тысячы папярэджанняў. А прозвішчы самых злосных неплацельшчыкаў надрукавалі ў мясцовай газеце — каб людзям было сорамна.

**С.М.**

# Маеш хату — плаці грошы

*Усе прыватныя дамы падлягаюць абавязковаму страхаванню*

**«Белдзяржстрах» пачаў спаганяць грошы з уласнікаў прыватных дамоў — усе хаты падлягаюць цяпер абавязковаму страхаванню.**



*Адкуль гэтым бедным людзям узяць грошы яшчэ і на страхоўку?..*

У мінулым годзе ўлады ледзь справіліся з разбурэннямі ад урагану, які пракаціўся па Мінскай і Брэсцкай абласцях. Вялікая колькасць сялянскіх хатаў засталася без дахаў, а ў асобных выпадках будынкі былі значна пашкоджаныя. Даводзіся выдаткаваць значныя сродкі. Каб вярнуць іх у казну, прэзідэнт Лукашэнка прыдумаў дэкрэт пра абавязковае страхаванне будынкаў, якія належаць грамадзянам. Такая практыка добра сябе зарэкамендавала ў савецкія часы, хаця грамадзяне на дзяржстрах СССР не надта разлічвалі і ставіліся хутчэй падазрона. Цяпер зноў прымушаюць страхавацца не толькі ад пажару, але і ад удару маланкі, буры, паводкі, ліўня і граду.

З 1 студзеня прэзідэнцкі дэкрэт пачаў дзейнічаць. Спачатку ўсе прыватныя дамы і гаспадарчыя пабудовы перапісалі і вызначылі іх кошт. Займаліся ацэнкай гэтай маёмасці прадстаўнікі «Белдзяржстраху». Каб сума атрымалася большай, у пералік пабудоў, якія неабходна застрахаваць, трапілі нават прыбіральні. Кошт хаты залежыць ад колькасці бярвенняў ці велічыні веранды. Па загадзе прэзідэнта грамадзяне абавязаны выплачваць страхавыя ўзносы штогод у памеры 0,3 працэнта ад вызначанай сумы. Грошы можна ўнесці па частках альбо поўнасцю. Галоўнае, паспець аддаць іх дзяржаве ў цвёрда вызначаны тэрмін, а менавіта да 1 лістапада. Калі чалавек адмовіцца плаціць страхоўку — яго выклічуць у суд.

Калі ж маланкай спаліць хату, пацярпеламу давядзецца спачатку даказаць, што ён не падпальваў будынак і прыняў меры для выратавання маёмасці. Зможаш пераканаць «Белдзяржстрах», атрымаеш пэўную кампенсацыю.

Многія ўладальнікі прыватных дамоў ужо атрымалі пісьмовыя ўведамленні, з якіх даведваліся, што іх будынкі застрахаваныя і плаціць ім давядзецца гадавы ўзнос у памеры ад 200 да 400 тысяч рублёў. Напрыклад, у Мінскай вобласці абавязковай страхоўкай абклалі амаль 282 тысячы грамадзянаў, якія павінны заплаціць 82 мільярды рублёў.

Людзі скардзяцца, што няма грошай, але дзяржаву гэта не цікавіць: прэзідэнт загадаў — трэба выконваць.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Агурковая праблема ў Шклове

**У Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці сёлета ў сялян-прыватнікаў дзве асноўныя праблемы — дрэннае надвор'е і падатковая інспекцыя.**

Шклоўскі раён мае рэпутацыю «агурковай сталіцы» на ўсходзе Беларусі. Вельмі многія тут маюць цяпліцы, звычайна гэта 3—5 сотак, але нямала ёсць і вялікіх, да 10 сотак.

Натуральна, ураджай вырошчваецца на продаж. У апошнія часы агуркі пачалі скупляць аптовыя гандляры. Гэта зручна і цалкам задавальняе прыватнікаў. Але мясцовая падатковая інспекцыя нядаўна зрабіла налёт на пункт у цэнтры Шклова, дзе звычайна адбываўся гандаль паміж аптавікамі і сялянамі-агурочнікамі. У выніку пакупнікоў разагналі, а ў людзей пачаў назапашвацца сёлетні ўраджай. А агуркі, як вядома, такі тавар, што ляжаць не можа.

Дасведчаныя людзі кажуць, што дзеянні падаткавікоў былі накіраваныя не толькі на папаўненне дзіравага мясцовага бюджэту (падаткі плаціць павінны ўсе — гэта натуральна). Улады яшчэ хочуць дамагчыся, каб агуркі пачалі здаваць у нарыхтоўчыя канторы. А гэта вельмі нявыгадна: у дзяржаўных нарыхтоўшчыкаў цэны ў 2 разы ніжэйшыя.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



## Выручыў багаты зямляк

**Ужо восем месяцаў жыхары вёскі Гамза Светлагорскага раёна не маюць праблемаў з паездкамі ў Светлагорск або Бабруйск. А ўсё таму, што Анастасіі Сілівончык сын падараваў мікрааўтобус «Мерседэс» і наняў пастаяннага шафёра.**

Пачалося ўсё з таго, што раённае начальства з прычыны нерэнтабельнасці адмяніла рэйсавы аўтобус, бо вёска Гамза малая і «неперспектыўная». Давялося старым за 15 кіламетраў хадзіць пешкі ў бліжэйшую бальніцу, што ў Парычах. Ну, а калі на рынак у Светлагорск, дык ажно 50 км. Генеральны дырэктар фірмы «Сибдорсервис» Анатоль Сілівончык, калі прыехаў з далёкага Сургута ў госці да маткі, убачыў бяду сваіх землякоў — і купіў былым аднавяскоўцам за 10.000 долараў мікраатобус.

Між іншым, Анатоль Сілівончык — вядомы на Беларусі мецэнат. У прыватнасці, ён даваў грошы на аднаўленне старажытнага сімвала Беларусі — Крыжа Еўфрасінні Полацкай, што ажыццявіў брэсцкі майстар М.Кузьміч. Дарэчы, яшчэ адзін мікраатобус мецэнат падараваў Спаса-Еўфрасінінскай царкве ў Полацку.

**У.К.**

# Што ні дзень, то новыя цэны

*Калі сёння падаражэў хлеб, то заўтра падаражэюць яйкі*

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**



Улады ніяк не могуць выканаць загад прэзідэнта наконт абмежавання росту цэнаў. Вось і за мінулы месяц (травень) кошты на спажывецкія тавары выраслі на 3,4 працэнта замест двух абяцаных.

Канешне, і два працэнты гэта многа, а тут — тры з лішкам. Але на колькі гэта многа? Абагульняючы паказчык па ўсіх таварных групах на гэтае пытанне адказу не дае. Ён толькі дазваляе зразумець асноўны прынцып цэнарэгулявання: калі сёння падаражэў хлеб, то заўтра падымуцца цэны на алей або цукар...

Іншая справа — цэны на кожны асобны тавар. Прааналізаваўшы іх дынаміку за некалькі месяцаў, выразна бачыш, што ёсць такія тавары, якія даражэюць рэгулярна і ў значна большых памерах, чым дазваляе Рыгоравіч. Найперш гэта тычыцца тавараў «мясной групы», цэны на якія штомесяц падымаюцца на 5-7 працэнтаў. А з пачатку года свініна, ялавічына і мяса птушкі падаражэлі амаль на 25%.

З каўбасамі наогул цяжка разабрацца: што ні дзень, то ў крамах з'яўляецца новы сорт і, зразумела, па новай цане. Але ў цэлым, як сведчыць мiністэрства статыстыкі, каўбасы з пачатку года падаражэлі на 18%. За гэтай агульнай лічбай таксама многа хітрасці. Напрыклад, цэны на дарагія сарты растуць вельмі хутка. Улады, напэўна, лічаць, што вэнджаная каўбаса — гэта прадукт для новых беларусаў, якія будуць яго купляць па любой, нават самай невераготнай цане. Бо гэта ж сапраўды невераготна, каб кіло каўбасы каштавала больш мінімальнага заробку. Але ж ці то «новых» у нас няшмат, ці яны не такія багатыя, бо на «танную» вараную каўбасу накідваюцца ўсе, і яна ў момант знікае з прылаўкаў. Таму танная каўбаса ёсць з'ява ў большай ступені ўяўная, чым матэрыяльная, і існуе яна не для харчавання, а дзеля таго, каб мінстат мог налічыць такі індэкс цэнаў, за які прэзідэнт хоць і пасварыцца, але галаву не адарве. Дарэчы, свежае мяса (па дадзеных таго ж мінстата) у нас купляюць толькі 15-20 працэнтаў сем'яў.

Пра рыбу я ўжо і не кажу — яна даражэе яшчэ хутчэй, чым мяса. А ўзяць малако, якое таксама вельмі хутка расце ў цане, хаця ўлады пастаянна трубяць, што вось гэтага яны не дапусцяць ні пры якім раскладзе. Ды што там малако, хлеб і булачкі даражэлі хутчэй рэальных зарплатаў і пенсіяў.

Сярэдняя зарплата, напрыклад, намінальна павялічылася з пачатку года на 12%, а рэальна — на 2,8%. Атрымліваецца, што ўлады добра рэгулююць толькі заробтную плату.

*Россия*

# Лебедь и Лужков – опасные соперники

*И для коммунистов, и для Кремля*

Еще недавно московские аналитики как левого, так и правого лагерей доходчиво объясняли, что весь электорат может быть разделен на три категории: сторонники коммунистов, приверженцы «партии власти» и «болото». После президентских выборов 1996 года на российской политической арене возникли «независимые» игроки, пасущиеся не только на ничейном «болоте», но и забредающие в «избирательные огороды» коммунистов и Кремля.





### Два Л «третьей» будут

Красноярский генерал-губернатор Александр Лебедь и московский мэр Юрий Лужков тем и милы избирателю, что дистанцируются от двух привычных, вечно противостоящих друг другу — кремлевской и коммунистической — группировок. Они не ассоциируются ни с прежним коммунистическим режимом, ни с нынешним реформаторским. Лебедь привлекателен своим стремлением навести в гражданской жизни армейскую дисциплину и порядок. И как в очередной раз показали красноярские выборы, избиратель не боится экспериментировать на себе и готов вверить судьбу человеку с тяжелой рукой, пусть и без всякого административного опыта.

Лужков может похвастаться не просто опытом, но и хозяйственными достижениями. Вся страна знает об успехах столичного градоначальника. А убеждать население, что Москва богата только потому, что в этом городе крутятся почти все федеральные и частные деньги, — безнадежная затея. «Для Москвы нашел — глядишь, и для всей страны найдет» — весьма распространенный в провинции тезис.

Лужков и Лебедь — опасные соперники как для коммунистов, так и для сторонников нынешней федеральной власти. По данным всероссийского опроса, сегодня совокупный рейтинг двух «независимых» кандидатов несколько превосходит показатели постоянного лидера таких опросов — Геннадия Зюганова. Сторонников нынешнего правящего режима беспокоит другое: «Ни один из них не сможет обеспечить преемственность власти и плавный переход власти от одного лидера к другому», — заявил в интервью телекомпании НТВ Борис Березовский. В то же время он считает, что «неразумно власти отпихивать такого лидера. Необходимо вступить с генералом в серьезный диалог».

И коммунистам, и Кремлю остается уповать лишь на противоречия между Лебедем и Лужковым, которые приведут к войне двух потенциальных кандидатов и растаскиванию довольно небольшого электората по двум лагерям. И высока вероятность того, что ни одному из них не удастся выйти во второй тур. Противоречия, а точнее сказать, непримиримая вражда между Лебедем и Лужковым налицо. У двух региональных руководителей нет даже поля для компромисса, поскольку на сегодняшний день компромисс может выразиться только в том, что один из них откажется от борьбы и войдет в группу поддержки соперника. А пока желания принести себя в жертву не высказали ни Лебедь, ни Лужков.

Впрочем, ближе к выборам перспектива того или иного политика будет определяться не только показателями опросов общественного мнения, но и качеством финансово-имиджмейкерской группы поддержки. В отличие от Лебедя, который меняет сотрудников как перчатки, у Лужкова есть надежная команда преданных соратников. Он собирает ее под крышей московской мэрии уже несколько лет, в то время как Лебедь фактически на каждую кампанию призывает «варягов».

### Соперники

Угроза появления «третьей» силы, третьего претендента на выход в финал куда больше беспокоит Кремль, нежели коммунистов. Лидер КПРФ Геннадий Зюганов уже второй год стабильно собирает свои 17-20% (по сравнению с аналогичным прошлогодним опросом он приобрел всего один процент). На его личный рейтинг не повлияли даже обвинения в «оппортунизме» и «соглашательстве с антинародным режимом», зазвучавшие с новой силой в конце нынешней весны, после того как Дума утвердила кандидатуру нового премьера. Более того, как следует из опроса, Геннадий Зюганов мог бы рассчитывать почти на 20% голосов (ему бы скорее всего достались и голоса радикалов, жаждущих видеть во главе страны Александра Лукашенко). Так что Зюганов все равно выиграл бы первый тур, даже если бы случилось невероятное, и Лебедь с Лужковым объединили бы усилия.

В свою очередь кандидату от нынешней власти повторить успех Бориса Ельцина двухлетней давности было бы куда сложнее. Еще год назад «партия власти» могла похвастаться тем, что хоть и потеряла некоторое число сторонников, тем не менее имела некоторое преимущество над любым представителем оппозиции. Преимущество это обеспечивала высокая популярность Бориса Немцова (15%). Однако за прошедший год вице-премьер умудрился растранжирить всю народную любовь: его бравада раздражает, на популистские заявления уже никто не обращает внимания, поскольку ни одно из громких начинаний так и не было доведено до конца.

Между тем в окружении президента по-прежнему не исключают возможности выдвижения кандидатуры самого Бориса Ельцина на третий срок. Возможно разговоры прекратятся к концу года, когда будет обнародовано соответствующее решение Конституционного суда. Однако пока, по имеющейся у нас информации, судьи сильно нервничают в преддверии обсуждения острого политического вопроса, и не исключено, что они сформулируют постановление настолько обтекаемо, что неопределенность с «конституционным» правом президента сохранится до весны 2000 года, когда Центризбирком официально объявит, присутствует или нет фамилия «Ельцин» в избирательном бюллетене.

**Дмитрий ПИНСКЕР,**
*обозреватель журнала «Итоги»*

**Если бы выборы президента России состоялись бы в следующее воскресенье, за кого из следующих кандидатов вы бы скорее всего проголосовали?**

*Число сторонников в процентах от общего числа опрошенных*

| | |
|---|---|
| Геннадий Зюганов | 18 |
| Александр Лебедь | 11,1 |
| Григорий Явлинский | 8,5 |
| Юрий Лужков | 7,8 |
| Борис Ельцин | 5,4 |
| Сергей Кириенко | 4,7 |
| Борис Немцов | 3,9 |
| Виктор Черномырдин | 3,5 |
| Владимир Жириновский | 3,0 |
| Александр Лукашенко | 1,9 |
| Дмитрий Аяцков | 0,5 |
| Другой | 1,8 |
| Не стал бы голосовать ни за одного из них | 13,8 |
| Затрудняюсь ответить | 15,7 |

*Данные опроса, проведенного Всероссийским центром по изучению общественного мнения (ВЦИОМ) 21-27 мая 1998 года на основании представительной всероссийской выборки (1.600 респондентов) среди сельских и городских жителей 83 населенных пунктов Российской Федерации.*

# Черномырдин не боится Березовского

Бывший глава правительства России, лидер движения «Наш дом — Россия» Виктор Черномырдин заявил, что ему безразлично, будет ли исполнительный секретарь СНГ Борис Березовский препятствовать его продвижению во власть или нет.

Как сообщил Виктор Черномырдин в интервью московской газете *«Коммерсантъ-Daily»*, им принято твердое решение баллотироваться в депутаты Госдумы России от Ямало-Ненецкого автономного округа в порядке довыборов. На вопрос, как он относится к тому, что политические силы, возглавляемые Борисом Березовским, готовят в округе альтернативного кандидата против экс-премьера, Виктор Черномырдин ответил, что *«это его не слишком интересует»*. *«Я слишком серьезно к этому отношусь и играться здесь не собираюсь»*, — сказал председатель НДР. По словам Черномырдина, Ямало-Ненецкий автономный округ очень много для него значит. *«Там — «Газпром», а «Газпром» для меня — альма матер»*, — заявил Виктор Черномырдин.

**Б.П.**

## Когда лозунги дороже жизни

**17 молодых коммунистов получили посмертно звание героев Корейской Народной Демократической Республики.**

Офицер Ким Чжон Чжин и его рота спасли от пожара деревья, на которых во время борьбы с японскими оккупантами партизаны вырезали патриотические лозунги: *«Да здравствует знаменитый полководец антияпонской войны Ким Ир Сен!», «Бороться во имя независимости!»*. Когда прибыли пожарные, солдаты уже погибли, но закрыли легендарные деревья своими телами. Солдаты были убеждены, что драгоценные деревья дороже их жизней.

**Б.П.**

## У Литвы будут свои автоматы

**В Вильнюсе публике торжественно представлен автомат *Vytis-3*, полностью соответствующий стандартам *NATO*, а по качеству, как утверждают создатели, даже превосходящий знаменитый УЗИ.**

Работы над проектом создания собственного оружия начались в начале 90-х годов. Экспериментальной группой *Vytis* разработано и произведено 30 боевых автоматов трех разновидностей — *Vytis-1, -2* и *-3*.

По мнению члена Комитета национальной безопасности А.Петрусявичюса, когда Литва примет решение о производстве собственного оружия, будет окончательно решен вопрос с вооружением армии и добровольческих отрядов. Ведь для этих целей Vytis-3 подходит как нельзя лучше. Поставить дело на поток не долго: понадобятся несколько месяцев. Не придется даже специальных заводов строить — с этой задачей вполне справится любой металлообрабатывающий завод.

**Жанна СКРИПОВА**

## Мадонна, чего тебе не хватает?

**В Майами стартовала кампания за выдвижение кандидатом в мэры этого города популярной поп-певицы Мадонны.**

Насытившись постоянными политическими скандалами, разоблачениями и экономической неразберихой, жители американского города Майами подумывают о том, чтобы выдвинуть кандидатом на пост мэра популярную поп-певицу Мадонну. Их основным аргументом является то, что певица достаточно богата и не станет разворовывать городскую казну. В настоящее время развернулась кампания по выборам мэра Майами, в которой, как предполагается, примет участие Мадонна. Хотя официального объявления о вступлении певицы в политическую борьбу пока не прозвучало, тем не менее городские радиостанции уже передают песни Мадонны, в которых она... обещает покончить с коррупцией и беспорядком. Если Мадонна решит принять участие в выборах и одержит на них победу, то тем самым встанет на путь известных певцов и актеров, сменивших артистическую сцену на политическую, таких, как Сонни Боно, Клинт Иствуд и Рональд Рейган.

**Илан ПОЛОЦК**

# Реабилитации не подлежит

**Военная коллегия Верховного Суда России признала не подлежащим реабилитации Николая Ежова – наркома внутренних дел СССР в 1936-1938 годах.**

В решении суда сказано, что Ежов, являясь прямым виновником репрессий, не может быть признан жертвой им же организованного террора и, следовательно, лицом, подпадающим под действие Закона «О реабилитации жертв политических репрессий».

Целью этого закона является восстановление репутации жертв террора и восстановление их в гражданских правах. Жертвами репрессий должны признаваться граждане, невинно пострадавшие от преследования государства, носителями политики которого являлись соответствующие должностные лица и, в первую очередь, — занимавшие высшие государственные посты. К ним, безусловно, относится Ежов, отмечается в решении суда.

Во время его руководства НКВД во внесудебном порядке было расстреляно 631.398 человек. Именно при нем и под его руководством репрессии стали носить организованный характер и получили массовое распространение, вследствие чего невинно пострадали миллионы граждан, а сотни тысяч погибли. Ежов издавал приказы о массовом репрессировании различных категорий граждан, незаконных арестах и расстрелах.

Так, приказом номер 00447 от 30 июля 1937 года предписано во всех республиках, краях и областях с 5 августа начать и в четырехмесячный срок закончить операцию по репрессированию бывших кулаков, казаков, служителей церкви, а также их семей, члены которых способны к активным антисоветским действиям. Приказ предписывал немедленный арест и расстрел по решению «тройки» наиболее враждебных лиц и заключение в лагеря на 8-10 лет остальных.

Ежов был арестован в 1938 году, 3 февраля 1940 года осужден за измену Родине, вредительство, приготовление к совершению террористических актов, организацию убийств неугодных лиц, в том числе своей жены, и приговорен к расстрелу. Приговор был приведен в исполнение на следующий день.

Заявление о реабилитации Ежова подала в военную прокуратуру его приемная дочь Наталья Хаютина. Примечательно, что, работая по этому заявлению, коллегия нашла дополнительные доказательства вины Ежова в организации массовых репрессий в отношении невинных граждан, незаконных арестов, применения физического насилия, фальсификации материалов уголовных дел.

**Елена ИВАНОВА**

# Дзе ж Купала начавала?

Свята летняга сонцастаяння, звязанае са старажытнымі індаеўрапейскімі культамі агню, сонца і ўрадлівасці, святкуе большасць еўрапейскіх народаў. Прыпадае яно на самую кароткую ноч — з 21 на 22 чэрвеня. Аднак пад уплывам забаронаў з боку хрысціянства ўзнікла некаторая блытаніна: святкаванне было прымеркаванае да пярэдадня свята Яна Хрысціцеля (24 чэрвеня), а ў праваслаўных гэты дзень адсунуўся аж на 13 дзён, і ў мясцовасцях з пераважна праваслаўным насельніцтвам «купалле» гуляюць у ноч на 7 ліпеня. Але, ведама ж, стан сонца на небе — больш надзейны арыенцір, чым тыя календары.

Беларуская назва Купалле найбольш верагодна паходзіць ад слова *купець*, якое сустракаецца ў значэнні 'гарэць' у некаторых беларускіх гаворках. Купалле ўключае ў сябе абрады пакланення агню і сонцу, ачышчальныя абрады, яно было адным са святаў кахання. Гэтыя абрады адлюстроўвалі спрадвечную філасофію нашых продкаў. Чалавек, выконваючы іх, уздзейнічаў на сілы прыроды, каб забяспечыць свой дабрабыт і адчуваць сябе ў бяспецы ў акаляючым свеце.



*Дудар не кідае сваю дуду, нават скачучы цераз купальскі агонь.*

У розных рэгіёнах Беларусі Купалле рознае. Гэта выклікана як мясцовымі асаблівасцямі, так і рознай ступенню захаванасці традыцыі, бо зніклі людзі, што захоўвалі веды аб дакладным выглядзе абраду. Ёсць думка, што ў старажытнасці каляндар быў прымеркаваны да цыклу, што ўключаў у сябе 72 звычайныя гады. Гэта час, праз які паўтараецца ўзаемнае размяшчэнне на небе Сонца, Месяца і Венеры (Мілавіцы). У кожны з гадоў гэтага цыклу тыя самыя святы маглі святкавацца па-рознаму. Купалле сімвалізавала «касмічны шлюб», калі Месяц «заляцаўся» да Венеры.

Напярэдадні Купалля — час найвышэйшага росквіту жыццёвых сілаў зямлі. Чароўная сіла прыпісвалася купальскай расе — ёю мыліся, давалі піць жывёле. Дзень перад Купаллем — найлепшы для збору лекавых траваў.

Вобраз Купалы — даволі загадкавы. Відаць, Купала — старажытная багіня плёну, урадлівасці. Купалам называлі і само вогнішча. Купала — міфічная істота, прыходу якой і чакалі, і баяліся. Купалка дапамагала маладым людзям знайсці нявест і жаніхоў, прадказвала ім лёс.

Да Купалля трэба было павыполваць усе гароды і бульбу. У некаторых мясцовасцях перад Купалам аблівалі адзін аднаго вадой. Калі даўно не было дажджу, то рабіліся абходы палёў з закліканнем на дождж. Звечара і на раніцу «купальнікі» абходзілі двары, і жыхары вёскі павінны былі іх частаваць. Калі ж гаспадар адмаўляў у частаванні, дык гэта азначала, што ў яго злыя намеры.

Само святкаванне адбывалася ўвечары і ноччу. Хлопцы збіралі старызну — зношанае адзенне і абутак, старыя рэчы і звозілі іх на старых калёсах за ваколіцу. На заходзе сонца святочна ўбраная грамада з песнямі выходзіла з вёскі на месца Купалля. Месца для Купалля выбіралі звычайна на ўзлессі ля высокага дрэва, на беразе рэчкі, абгароджвалі яго бярозкамі. Сярод моладзі выбіраўся «распарадчык» — Купаліш. Запальвалася і ўздымалася на дрэва ці на жардзіну прасмаленае кола. Купальскі агонь здабываўся з дапамогай трэння дрэва аб дрэва, што сведчыць аб старажытнасці рытуалу. На агні палілі старызну і зеляніну, якой упрыгожвалі хаты на Сёмуху (Тройцу). Часам спальвалі і ляльку, апранутую дзяўчынай. Тут жа гатавалі вячэру. Пасля вячэры (з чаркай) пачыналіся гульні, скокі цераз агонь, карагоды. Жанатыя і ўдовыя не мелі права скакаць цераз купальскі агонь, толькі замужнія бяздзетныя жанчыны маглі падысці да агню, каб сказаць загавор на дзяцей. Запаленае кола пускалі з гары, качалі вакол сяла. У некаторых мясцовасцях пускалі па вадзе невялікія плыты з раскладзеным на іх вогнішчам. Быў і такі звычай — голыя мужчыны абносілі барану вакол вёскі і спальвалі яе на ростанях. Дзеўкі выбіралі сярод сябе найпрыгажэйшую, распраналі, абвешвалі вянкамі і кветкамі і вадзілі па палях.

Дзяўчаты загадвалі пра замужжа, кідалі вянкі ў агонь ці пускалі па вадзе: чый хутчэй згарыць ці патоне, тая хутчэй выйдзе замуж. Выконваліся песні ў гонар Лады, або Лелі — багіні шлюбу і дабрабыту ў балтаў і паўночных славянаў. Купальскія шлюбныя гульні калісьці былі зусім не гульнямі, а рэальнымі купальскімі шлюбамі. Адсюль, дарэчы, паходзіць павер'е, што дзяцей прыносіць бусел, бо буслы вяртаюцца з выраю якраз праз дзевяць месяцаў пасля Купалля.

Абавязковая частка абраду — купанне ўдзельнікаў у рацэ і качанне ў расе. Пасля — пошук папараць-кветкі. Той, хто яе знойдзе, зможа разумець мову звяроў, птушак ды раслінаў, будзе ведаць, дзе якія скарбы ляжаць і як да іх падступіцца. Знайсці папараць-кветку цяжка. Дапамагчы тут можа Купальскі Дзядок. Ён можа падарыць папараць-кветку, калі сустрэнеш яго ў лесе пад час пошукаў. Купальскі Дзядок — увасабленне добрага продка. Тут зазначым, што пасля Купалля будуць Пятроўскія дзяды — дзень памінання продкаў.

Песні складалі важную частку ўсяго абраду. Купальскія песні спяваліся толькі ў вызначаны час — ад вясны да самага Купалля. Кожная песня мела сваё абрадавае прызначэнне: адны спяваліся пры зборы зёлак, каб яны захавалі сваю чароўную сілу, другія — пры скаканні цераз агонь, трэція — пры абходзе палёў, чацвёртыя — на ўсход сонца і г.д. Песнямі выпрошваецца ў Купалкі пагода на ноч, песнямі ж паведамлялі, што яе «пераймаюць», сваякоўць па ўсіх канонах старажытнай паганскай традыцыі. А ў адной з песняў Купалка скардзіцца, што яе не так пераймаюць: «толькі то й робяць, што агні раскладаюць». Спевам прыпісвалася магічная сіла, імправізацыі не дапускаліся. Трэба заўважыць, што беларускія купальскія спевы падобныя да аналагічных літоўскіх. Ёсць падобныя спевы на поўначы Украіны і на Смаленшчыне, Браншчыне і Пскоўшчыне. На Купаллі абавязкова ўдзельнічалі ўсе члены абшчыны, і спяваць павінны былі ўсе ўдзельнікі, не дзелячыся на «артыстаў» і «гледачоў».

Падчас Купалля тварыліся «рытуальныя бясчынствы». Маглі, напрыклад, перагарадзіць дарогу, заткнуць комін, падперці дзверы, украсці ды спаліць вароты. Крыўдаваць на гэта забаранялася. Што праўда, сёння ў многіх вёсках большасць жыхароў — старыя людзі, і для іх тыя бясчынствы не такія ўжо бяскрыўдныя.

Уранні зноў абходзілі вёску. Тут частаванне «купальнікаў» было падзякай за зробленую імі карысную «работу», ад якой залежаў дабрабыт сялян.

Скажуць: але ўсё гэта было раней, а цяпер што? На цяперашніх «Купаллях» колы паляць гумовыя, а смурод ад той гумы запіваюць нямерана гарэлкай, цераз агонь скачуць не толькі хлопцы ды дзяўчаты, а ўсе, хто хоча, а пасля такіх святкаванняў у газетах з'яўляюцца здымкі аголеных цётак не першай маладосці, што плёхаюцца ў вадзе з вяночкам на галаве. А яшчэ цяперашнія «фолк-рок-гурты» могуць заспяваць купальскія песні сярод зімы, а калядныя — на Вялікдзень. Так яно і ёсць. Тут толькі можна параіць: добра выберыце сабе кампанію. Падрыхтуйцеся як след. Вывучыце хоць колькі купальскіх песняў. Адпаведнае месца няцяжка знайсці нават у ваколіцах вялікага горада.

І — спяшайцеся: Сонца яшчэ стаіць на месцы, але часу ўжо мала, заўтра дзень пойдзе на спад!

**Вінцэсь ЛІПСКІ**

## Даты і лёсы

### 23 чэрвеня

**1848.** Адольф Сакс запатэнтаваў новы музычны інструмент — саксафон.

**1938.** Нарадзіўся Юрый Хадыка — вядомы фізік, мастацтвазнаўца, адзін з лідэраў БНФ. Сёння яму спаўняецца 60 гадоў.

### 24 чэрвеня

**1812.** Разам з перапраўай напалеонаўскіх войскаў праз Нёман для нашых продкаў фактычна пачалася грамадзянская вайна: рэгулярныя вайсковыя фармаванні, у якіх пераважалі беларусы, біліся на абодвух баках за інтарэсы Францускай або Расійскай імперыі.

**1838.** Нарадзіўся выбітны польскі мастак чэшскага паходжання Ян Матэйка, удзельнік паўстання 1863 г. і аўтар знакамітых палотнаў «Грунвальдская бітва», «Баторый пад Псковам» ды інш., дзе аднолькава ўражваюць шчыры патрыятычны пафас і вельмі глыбокі псіхалагізм.

### 25 чэрвеня

**1730.** Буйнейшы ў гісторыі банкет з нагоды вайсковага свята ў мястэчку Радэвіцэ наладзіў кароль Польшчы і вялікі князь Літоўскі Аўгуст II: у баляванні ўдзельнічалі каля 30 тыс. гасцей.

**1868.** Нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), які напісаў першы беларускі раман — «Золата».

**1903.** Нарадзіўся аўтар знакамітых раманаў «Звярыная ферма» і «1984» Джордж Оруэл (Эрык Блэр), удзельнік грамадзянскай вайны ў Іспаніі, дзе ён расчараваўся ў камуністычных ідэалах і пасля апісаў у сваіх творах, у якіх пачварных монстраў ператвараюцца таталітарныя камуністычныя дзяржавы.

**1928.** На з'ездзе каля Оршы была заснаваная Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Амаль усе ўдзельнікі з'езда потым былі рэпрэсаваны сталінскім рэжымам.

**1938.** Наркам унутраных справаў БССР А.Наседкін накіраваў у ЦК КП(б)Б і ў Маскву дакладныя запіскі пра «варожую» дзейнасць сярод беларускіх настаўнікаў і навукоўцаў: з 1.057 настаўнікаў Мінска палітычны кампрамат быў сфабрыкаваны на 266, у Віцебскім раёне — на 111 і г.д. У Акадэміі навук Беларусі чэкісты ў той час сачылі за 22 «удзельнікамі антысавецкага падполля», у тым ліку — за віцэ-прэзідэнтам АН «эсэрам і нацыянал-фашыстам» Якубам Коласам. На працягу 1937—38 гг. у Акадэміі былі арыштаваны 57 чалавек.

**1941.** Германскія войскі занялі Вілейку, Смаргонь, Радашковічы. Урад БССР пераехаў у Магілёў.

**1978.** Леанід Брэжнеў прышпіліў да сцяга горада-героя Мінска ордэн Леніна і медаль «Залатая зорка».

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**ФУТБОЛ**

# Больше всех забили французы

**На чемпионате мира по футболу продолжаются матчи групповых турниров.**

Во втором туре фавориты чемпионата одержали крупные победы: Бразилия над Марокко и Италия над Камеруном по 3:0, Франция над Саудовской Аравией — 4:0, Голландия над Южной Кореей и Аргентина над Ямайкой — по 5:0. Второй выигрыш подряд на счету нигерийцев, одолевших сильную команду Болгарии — 1:0. Главная неожиданность турнира — неуверенное выступление команды Испании. После поражения от Нигерии — 2:3 испанцы добились только ничьей в матче с Парагваем — 0:0.

Поединки Германия — Югославия и США — Иран имели, кроме чисто футбольного значения, еще и политический подтекст. Югославы две трети матча диктовали свою волю чемпионам Европы 1996 года и забили в их ворота два мяча. Но германские футболисты в который уже раз проявили волевую мускулатуру и успели сравнять счет — 2:2.

Иранцы же одержали принципиальную победу над американцами — 2:1. Не иначе как помог Аллах! Впрочем, и сами иранские футболисты действовали быстро и технично.

Независимо от исхода матчей третьего тура групповых турниров места в 1/8 финала себе уже обеспечили сборные Франции, Бразилии и Нигерии. Кстати, хозяева чемпионата забили больше всех мячей в ворота соперников — 7, не пропустив при этом ни одного. Чаще других доставали мячи из сетки ворот вратари Южной Кореи и Ямайки — по 8. Лучшие бомбардиры турнира пока аргентинец Габриэль Батистута — 4 гола, чилиец Марсело Салас, итальянец Кристиан Вьери и француз Тьерри Анри — по 3.

**Семен ПЛОЦ**

В прошлую субботу, 20 июня, в Витебской области на Лепельских озерах проходило своеобразное автомобильное ралли, в котором участвовало около десятка джипов. В основном это были машины западного производства. Среди них затесался только один УАЗик. Даже иномаркам не так просто бороться с белорусскими дорогами: на снимке видно, как группа мужчин старается вытянуть засевший в большой луже джип.



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1204 Нумар падпісаны ў друк 22.06.98 (15:00) Наклад — 18.490